№ 45 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перасылкай і дастаукай да хаты:
на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам

№ 45 (241). Год III. Вільня, 4 чэрвеня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### 3 чэрвеня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскага:* Час ад часу пачынаецца артылерыйская бітва. Непрыяцельскіе атакі на заход ад Байёль і на поўнач ад Ліс адбіты.

*Фронт нямецкага Насьледніка:* На месцэ разьбітых нашымі атакамі французскіх і англіцкіх корпусоў і на помач пасьпешна прызваным суседнім арміям і меўшых вялікіе страты дывізіям, пасланы на поле бітвы і ўвайшлі ў бой новые французскіе часьці з далёкіх аддзелаў фронтаў.

На поўнач ад Эн яны прабавалі, але без удачы ўдзержаць свае пазыціі. Мы разьбілі іх у срогіх акопных бітвах і адкінулі назад на Мулен-су-Туван — Сэнхрыстов-Вэнгр. На поўначы ад Суассон мы ўзялі Шадэн. У атацы мы перайшлі праз даліну Сав'ер і дайшлі ўсходняга ўзьлесься лясоў Вільлей-Котрі. На паўдня ад Ур непрыяцель вёў вострые контраатакі, каторые крывава адкінуты. Мы падыйшлі праз Кур-Шан і Монтрі і ўзялі вышыні на заход Шато-Т'ері. На Марне і між Марнай і Рэвс палажэньне без перамен. Мы абстрэлівалі лятунамі чыгункі, ў каторых падвозілі войскі на поле бітвы. Мы зьбілі 31 аэропляан.

---

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Доказам поўнага перапуду, вызванага ў французаў нашым наступленьнем, служаць вялізарные склады, пакіненые цэлымі ўцекаючымі ворагамі. Калі дзіўна здаецца, што на аэродромах пакінено многа зусім цэлых самалётаў, дык асабліва незразумело тое, што ўцекаўшые французы не пасьпелі зніштожыць вялізарные склады запасаў.

БЭРН. Французскі дэпутат-социаліст Дэгіз падаў новы запрос аб разьвіцьці палітычных і ваенных спраў ад 20 марца. Клемансо абецаўся даць у аўторак кароткае апісаньне палажэньня. Клемансо заявіў, што ён цяпер занят і цераз некалькі мінут павінен ехаць на фронт. Прамоўцы казалі, што бытнасьць Клемансо на фронці нічога не паможэ і што шмат важней, каб ён астаўся ў Парыжы і явіўся ў парлямэнт. Социалісты, абураные апошнімі арэштамі кіраўнікоў работнікаў і прафэсыональных саюзаў, маняцца на заседаньні у аўторак цьвёрда пратэставаць проці палітыкі Клемансо ў адносінах да народнага прэдстаўніцтва.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Пасьля занецьця намі паўночнае часьці Шато-Т'еры і Вэрнэй фронт на Марне дайшоў у больш за 20 кілёмэтраў ушыркі. Вузкі клін абярнуўся ў шырокую франтовую базу.

ЛОНДОН. Грамадзянства вельмі ўстрывожэно здарэньнямі на заходнім фронце. Газэты падчырківаюць добрае палажэньне немцаў, каторые маюць свабоду дзеіньняў і могуць нападаць у якім хочуць кірунку, вядучы наступленьне: на порты канала Ляманш, або на Ам'ен, або на Парыж. Лёрд Сэсіль меў на правінціі мову у каторай паказаў на вельмі сур'ёзнае палажэньне. С 1914 году палажэньне ніколі не было болей небаспечным. Аднак ён спадзяецца на адвагу салдатоў.

ЖЭНЕВА. Газэты наказываюць што ў часе падарожы на фронт самаходам, у якім ехаў Клемансо і міністрэр Фавр, здарылося нешчасьце. Абодва цяжка ранены; патрэбна опэрацыя.

БЭРН (В.Т.Б.). Пастянны камітэт сінн фэйнэраў паслаў у англіцкіе газэты гэткі пратэст:

«Мы цьвёрда пратэстуем проці гвалтаў над арэштаванымі ў тым тыдні нашымі таварышамі, аб каторых сваяком іх не кажуць, дзе яны знаходзяцца. Мы зьвертаем увагу ўрадаў Эўропы і Амэрыкі на тое, што ірляндцы прасьледуюцца так-званымі «ваякамі за волю малых народаў».

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 30 мая ідучы на перадзі сваіх пабедных войск неўдалёчку ад Марны, забіт прынц Бухаў, начальнік аднэй дывізіі, каторая ад 27 да 30 мая ў безупынных бітвах у дзень і ў начы прайшла 60 кілём., здабыла 12 батарэй с 60 гарматамі і ўзяла да 3.600 палонных.

БАЗЭЛЬ. „Times" наказывае с Торрэнто:

У Галіфаксе узьняўся бунт, калі была зроблена спроба арэштаваць двох салдатаў і матросаў. Таўпа прабавала падпаліць ратуш намочэнай у газу саломай і перарэзала пажарніцкіе трубы. Аднак, пажар удалося затушыць.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. 2.VI. У поўначы пазаўчора у Стамболі ўзьняўся вялізарны пажар, затушэны толькі ўчора. С прычыны цеснаты ў дрэўляных кварталах згарэло многа магаметанскіх дамоў. У тушэньні пажару прынімалі ўчасьце аўстрыяцкіе і нямецкіе войскі. Ваенны міністэр сам кіраваў тушэньнем.

БЭРН. Поўофіцыозна апавешчаецца, што французскі ўрад цьвёрда загадаў паліцыі безміласэрна караць усіх, хто будзе шырыць весткі аб ваенных здарэньнях, вызываючые паніку.

ЖЭНЕВА. У парыскім прадмесьці С.-Дэні ў 5-гадзінным пажары згарэла да тла фабрыка ваенных матэрялаў.

---

Рэдакція „Гомана" просіць усе пісьмы, рукапісы да друку, карэспандэнціі, газэты і т. п. пасылаць ёй **ТОЛЬКІ** па адрасу: **Віленская вул. 33, кв. 1.**

## Незалежная Беларусь.

**Украіна і Беларусь.**

Як чытаем у № 144 нямецкае газэты „Vorwärts", П.Т.А. апавешчае, што ў зьвязку з расейска-ўкраінскімі мірнымі перэгаворамі ўкраінскае міністэрства разгледало пытаньне аб адносінах між Украінай і Беларусьсю. Украінскі ўрад будзе паддзержываць прынцып самаазначэньня нацыянальнасьцей і з гэтай прычыны пойдзе насустрэч утварэньню этнографічнай, здольнай да жыцьця Беларускай дзержавы. Аднак, с прычыны таго, што беларускі ўрад яшчэ аканчацельна не ўстаноўлен, а Беларускае гасударства знаходзіцца яшчэ ў стане тварэньня,—з ім пры мірных перэгаворах з Расеей будзе цяжка лічыцца офіцыальна. Усёж-такі ўкраінскі ўрад на мірных перэгаворах будзе бараніць жыцьцёвые інтэрэсы Беларусі.

**Беларуская дэлегація на Украіне.**

КІЕЎ (В.Т.Б.) 1.VI. Беларуская дэлегація была ў міністра заграцічных спраў у справе ўстанаўленьня беларуска-ўкраінскіх граніц і ўчасьця беларусаў у мірных перэгаворах з Расеей. Дэлегація падала ноту аб апавешчэньні незалежнасьці, просячы, каб савецкая рэспубліка прызнала яе, ды каб былі пачаты перэгаворы аб граніцах і тарговых зносінах.

**Аб новых дзержавах на Усходзі.**

ВЕНА. Конгрэс экономічных саюзаў прыняў рэзалюцію, ў каторай між іншым гаворыцца:

„Развіцьце творэных на Усходзі Эўропы дзержаў у крэпкіе палітычные адзінкі карысна дзеля эўропэйскага міра і цэнтральных дзержаў».

### Роспуск польскіх войск у Беларусі.

У тым нумэры мы ўжо падалі вестку аб роспуску польскага окупацыйнага корпуса генэрала Довбор-Мусьніцкага, заняўшага вялікі кусок зямлі Беларускай у межах Бабруйск-Магілёў Жлобін. Аб тым, як паступало польскае войска з беларускім народам, мы давалі ад часу да часу кароценькіе весткі. Але найбольш яркі абраз польскае гаспадаркі ў Беларусі дае мэморыал таварыша старшыні презыдыума Бабруйскай Павятовай Беларускай Рады, Антона Аўсяніка, прысланы Беларускай Радзе ў Вільні 11 красавіка 1918 г.

Мы перэдруковываем гэты цікаўны дакумэнт, каторы мае бязспорна гістарычнае значэньне.

*Віленскай Беларускай Радзе.*

Пасьля кароткага панаваньня ў Бабруйскім павеці большэвіцкіх „дзеячоў", с пачатку лютага 1918 году, пачалі парадкавацца палякі —1 корпус генэрала Довбора-Мусьніцкага.

Прыход легіонераў на жыхараў Бабруйска спачатку зробіў рознае ўражэньне: адны, думаючы, што с прыходам палякоў настане спакой і парадак у месьце, цешыліся і сэрдэчна віталі „ваякаў"; другіе, больш разумеючые, не на жарт спалохаліся, відзючы ў іх ворагаў.

На селян прыход легіонераў зрабіў самае цяжкое ўражэньне; гэтае ўражэньне штучна падтрымлівалося большэвікамі, каторые, пашыраючы дзесяткі тысячаў праклямацый, казалі, што варочаецца ізноў паншчына.

Пачалася арганізацыя „чырвонай гвардзіі"; селян гвалтам гналі ў гэту „гвардзію". Пачаліся „баталіі".

Спачатку на гэтые „баталіі" глядзелі, як на дзяціную забаву, —але пасьля, як даведаліся, што не жарт пачалася бойня і што ёсць шмат забітых, сум агарнуў людзей.

Места аказалося адрэзаным; жыхары пачулі сябе, як у мяшку. Шырыліся самые баечные чуткі: то французы йдуць на помач большэвіком, то палякоў прыслалі самі-ж большэвікі — і т. д., і т. д. Почта, тэлеграф перэсталі функцыанаваць. Газэт ніякіх. Усе ждалі „сваіх". А хто гэтые „свае" — ніхто добра ня ведаў. Жыхары баязьліва перэгаварываліся, шапталіся, а на Рагачоўскім, Асіпавіцкім і іншых „фронтах" запраўды ішла вайна.

Амаль што ня с першых дзён свайго прыходу легіонеры аб'явілі места Бабруйск на асадным палажэньні; дзеля гэтага быў дадзен прыказ, каб аддалі аружжэ, пасьля 8 гадзін вечара ніхто на вуліцу не выходзіў і інш.

Усіх больш-менш вядомых палітычных дзеячоў арэштавалі, вінавацючы іх усіх наагул у большэвізьме.

Па вуліцах разьежджалі аўтамабілі з аружнымі легіонэрамі;

цэнтральных дзержаў на польскіе захватные дамаганьні разьвее, як дым, сны палякоў аб панаваньні над нашым краем. А тады цёмные, баламучэные тутэйшые каталікі, перахрышчэные у „палякоў“, зразумеюць, дзеля якой пустой і нягоднай справы яны бароліся са сваімі роднымі братамі, і, пачуўшы ўсё страшэнства работы розных прыблуд, пачуюць сябе ізноў сынамі Маткі-Беларусі, якой гэтак многа благога робілі праз доўгіе гады.

*І. Мелешка.*

# Воля і прасьвета.

Цыфры, статыстыка—гэта найбольш красамоўны матэрыял пры досьледах розных пытаньняў грамадзкага жыцьця. Асабліва многа гаворадь нам статыстычные данные аб прасьвеці ў нашым краю ў часох расейскага панаваньня.

Дзеля высьненьня, як пастаўлена была справа народнае прасьветы ў Віленскай губэрні, мы скарыстаем з расейскіх урадовых матэрыялаў („Памятная книжка Виленской губ.“ 1910 г.).

За 11 гадоў (ад 1898 да 1909) число *хрысьціянскіх* школ з 260 узрасло да 499, значыць *павялічылося на 239*, а число дзяцей у іх—з 23.426 да 40.160, значыць, павялічылося на 16.734. За той жэ самы час число *жыдоўскіх* школ *паменшылося на 328* (с 657 да 329), а число вучняў у іх—на 4.636.

Число царкоўна - прыходзкіх школ і школ граматы ў 1898 г. было 708 с 13.628 вучнямі, а ў 1908—701 з 21.212 вучнямі.

„С прычыны таго, што за тые-ж 11 гадоў насяленьне Віленскай губэрні ўзрасло на 250.515 душ, натуральна, што некаторае павялічэньне чысла школ не адпаведае гэткаму шыбкаму ўзросту чысла жыхараў і не магло палягчыць доступа ў школы, даўно перапоўненые вучнямі“, — чытаем мы ў урадовай справаздачы.

Лёгка зразумець, што народ ня мог здаволівацца „казённай“ навукай. Але ў часе панаваньня расейскага самадзержавія прыватная навука была забаронена, і людзі вучыліся граматы ціпіком, укрываючыся, як бытцым рабілі нейкае страшэннае ліхадзейства... Затое, калі ў Расеі першы раз „павеяло вясною“, калі с пачаткам японскае вайны ўціск народу крыху палягчэў, рух да прасьветы зразу пачаў шыбка разьвівацца, даходзячы найвышэйшае ступені ў рэволюцыйным 1905 годзі і зразу падаючы с пачаткам рэакціі. Вось, цыфры, паказываючые працэнтнае число граматных рэкрутаў (у тым ліку ўмеючых толькі чытаць і пісаць або толькі чытаць), прынятых у армію віленскім прысутствам з усіх паветаў віленскай губэрні:

| | | | |
|---|---|---|---|
| ў 1899 | году | — | 37,3 % |
| „ 1900 | „ | — | 41,0 „ |
| „ 1901 | „ | — | 37,5 „ |
| „ 1902 | „ | — | 50,9 „ |
| „ 1903 | „ | — | 43,5 „ |
| „ 1904 | „ | — | 50,6 „ |
| „ 1905 | „ | — | *74,0* „ |
| „ 1906 | „ | — | 52,9 „ |
| „ 1907 | „ | — | 51,3 „ |

Асабліва цікава паставіць побач працэнты граматных рэкрутаў за тры гады: 1904, 1905 і 1906. Гэтак было граматных рэкрутаў (у працэнтах):

| | 1904 г. | 1905 г. | 1906 г. |
|---|---|---|---|
| у Вільні . . | 65,2 | 89,5 | 61,7 |
| „ Віленск. п. | 15,6 | 63,2 | 40,1 |
| „ Вялейск. „ | 51,9 | 78,5 | 63,8 |
| „ Дзісн. „ | 54,9 | 68,0 | 58,7 |
| „ Лідзк. „ | 54,3 | 69,0 | 49,3 |
| „ Ашмян. „ | 51,1 | 78 8 | 54,2 |
| „ Сьвенц. „ | 55,8 | 79,5 | 48,3 |
| „ Троцк. „ | 28,3 | 69,9 | 36,8 |

Цыфры гэтые, сьведчучы вельмі востра проці прасьветнай палітыкі расейскага ўраду, даюць нам яркі доказ, што народ наш хочэ навукі, што ён здабыў яе ў вялікай меры саматугам і што пры волі, пры незалежным быце наш край шыбка пойдзе ўпярод па дарозі прасьветы і культурнага разьвіцьця.

*Г. Б.*

# У Вільні і ваколіцах.

× **Нашы страты.** З меншчыны даходзяць сумные весткі: з беларускай літэратурнай сям'і выбылі яшчэ дзьве чынные сілы.

Гэтак, педаўна зышоў са сьвету стары працаўнік на беларускай ніве, паэта Казімір Кастравіцкі, вядомы пад прозьвішчэм „Каганец“. А сьледам за ім памёр у Вялейскім павеці (каля Крайска) малады, ўсяго 24 гадоў, паэта беларускі Альфонс Петрашкевіч, пісаўшый пад псэўдонімам „Ф. Калінка“.

× **Лекцыя.** У нядзелю, 2 чэрвеня, Kreishauptmann с Купішэк прачытаў у салі сьв. Юрскі пр. 9 лекцыю на тэму: «Літва; край і людзі».

× **Рамізьнікі для ўсіх.** Начальнік упраўленьня Літвы апавешчае, што загад з 9 мая 1917 г. аб разьдзелі рамізьнікаў у межах Вільні на дзьве клясы: для ваенных і цывільных асоб—губляе сваю сілу.

× **Расьпісаньне поездаў.** Ад 1 чэрвеня ўстаноўлен між Вільняй і Баранавічамі гэткі рух поездаў:

Поезд № 205 выходзіць з Вільні ў 6 г. 40 м. нараніцы і прыходзіць у Баранавічы ў 1 г. 19 м. дня.

Поезд № 204 выходзіць з Баранавіч у 4 г. 10 м. дня і прыходзіць у Вільні ў 11 г. 15 м. начы.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 31 — 1 | + 19,5° | + 8,9° |
| 1 — 2 | + 9,6° | + 4,3° |
| 2 — 3 | + 12,5° | + 1,4° |

# Віленскі патрыотызм.

Ецсь месты, каторые ўзгадоўваюць у душах сваіх жыхароў асабліва сільную любоў да сваіх мураў. Як жыхар марскога ўзьбярэжжа любіць сваё морэ, як гарэц — свае горы, так гэткі местовы жыхар любіць свае места. Да гэткіх маючых магнэсовую сілу мест належыць і Вільня.

Дзеля гэтага шмат прычын. Глаўным чынам—супольная ўсім людзём туга па родным куце, гдзе с кожным каменем, с кожным дрэвам, с кожнай пахіленай хатай зьвязаны ўспаміны пераж́ытых часін. Далей—традыцыя, гістарычные ўспаміны мінуўшчыны, каторые для многіх маюць спэцыяльны чар; далей—колішні расцьвет Вільні, як сталіцы быўшага Вялікага Князьства Літоўскага, пасьля — нешчасьці, каторые не раз перэжывала Вільня, ўрэшці—арыгінальная легенда аб закладзінах места, — ўсё гэта, здавалося бы, рэчы дробные, неважные, аднак сумма іх мае вялізарнае псыхолёгічнае значэньне. Ды, наканец, і самы выгляд места—яго старые крывые вулачкі, гдзе, здаецца, кожын камень, кожная цэгла шапочэ аб слаўнай мінуўшчыне, яго цікавае з артыстычнага боку жыдоўскае *getto*—Шкляная, Жыдоўская, Жмудская і інш. вуліцы, ды ўрэшці Замковая гара, зеляненючая ўлетку ў даліне паміж мураў, бытцым букет, і добра знаёмые кожнаму віленчуку пекные ваколіцы дапаўняюць сумму ўражэньняў, рэзультат каторых гэткі, што рэдка які праўдзівы віленчук, адарваны ад роднага места, не хварэе на ностальгію...

Для тых, каго выгналі з Вільні ваенные здарэньні, ізноў ёсць магчымасць вярнуцца пасьля 3-х гадовай разлукі з родным местам. Вайна, адбіўшыся безвыключна на ўсім, адбілася і на выглядзе Вільні. Тое, да чаго нашэ вока ўжо прывыкло, кідаецца ў вочы чэлавеку толькі-што прыехаўшаму і будзіць у душы сумные думы...

Як на грунце веры або якойсь ідэі людзі злучаюцца і адзін для аднаго—духовые сваякі, так сама любоў да Вільні гэта ёсць цэмэнт, каторы злучае „патрыотаў Вільні“, навязывае між імі невідочную, а выразную ніць сымпатыі. На момэнт сваркі заціхаюць і сэрцы людзей розных палітычных пераконаньняў і розных нацыанальнасьцяў ударають у адзін тахт — у тахт жаданьня дабра і развіцьця роднага места.

Гэтых па волі ці няволі бежэнцаў з Вільні вертаецца назад усё болей. Усё часьцей між спаткаўшыміся пасьля доўгай разлукі людзьмі, ня гледзячы на рожніцу паглядаў, зазьвініць супольная струна. Калі ў мяцеліцу палітычна-нацыанальных нязгод знойдзецца які-колечы грунт для аднальковага чуцьця, зьбліжэньня—то ўжо душа цешыцца.

Шчыра вітаем усіх варочаючыхся дамоў патрыотаў Вільні. Ніхай усе стануць дружна да працы дзеля будучага расцьвету роднага места. Ніхай хаця ў тым іх думкі і жаданьні будуць аднальковы, калі ў іншых раздзеляе іх—пропасць...

*Ф. О.*

ВІНЦЭНТ.

Ня блюзьні! (зьдзівіўшыся): Хто п'яны?.. Я — п'яны?.. (да Ігната): Бач, чуеш? — я... п'яны? (ікнуўшы): А каліб і так, дык што? Хто мне забароніць? Калі піў, дык за свае грошы піў!.. Не! (да Ігната): за твае грошы піў... Пацалуй мяне, каханенькі! (цалуюцца з Ігнатам).

МІХАЛІНА.

Не кажы многа, а калі ўпіўся, то ідзі лепш спаць!.. (да Ігната): І ня сорам вам, панок, так напаіць майго мужа!

ВІНЦЭНТ.

Ты, Міхця нічога ня ведаеш!.. Мы маем пляны!.. мы...

ІГНАТ (да Вінцэнтага).

Цсс! Не цяпер!..

МІХАЛІНА (з пагардай).

А ведаю я твае пляны!..

ВІНЦЭНТ.

Чаму не цяпер? Вось цяпер... калі ўся сем'я разам...

МІХАЛІНА.

Э, німа што гукаць пустое! Седайце за стол! Пан Юзюк кідзайце ўжо работу і хадзеце есьці, бо абед астыў.

(Усе седаюць навакол стала.)

ВІНЦЭНТ.

Чаму не цяпер?! Калі я—бацька, я—Вінцэнт Сьліжык абецаўся, дык можэш быць зусім спакойны... Вось цяпер трэба сказаць аб нашай пастанове!...

ІГНАТ (ціха да Вінцэнтага).

Дарагі пан Вінцэнты, не цяпер! Не цяпер кажэце, бо вашая жонка ў кепскім гуморы...

ВІНЦЭНТ.

Што жонка?!.. Прысягала прад аўтаром паслушэнства да сьмерці...

ІГНАТ.

Я вас вельмі прашу...

ВІНЦЭНТ (згаджаючыся).

Ну, калі ўжо так просіш... А аб сукцэсе можна?

ІГНАТ.

Ну, аб гэтым...

ВІНЦЭНТ.

Пацалуй мяне!... (цалуе яго).

МІХАЛІНА.

(да Вінцэнтага і Ігната):

Дык седайце ж нарэшці!.. Вось смокчыцца!.. (Усе седзяць і абедаюць, абед прынесла Зоська с кухні. Паўза).

ЮЗЮК (да Вінцэнтага).

Ці пан не забыўся купіць шнуркоў і воску?

ВІНЦЭНТ (п'яным голасам).

Ня трэба воску! ня трэба шнуркоў!..

ЮЗЮК.

Чэравікі ўжо былі-б скончэны,—нельга пуцаваць бяз воску...

ВІНЦЭНТ (як выш.).

Ня трэба воску! ня трэба пуцаваць!..

ЮЗЮК (дзівіцца).

МІХАЛІНА.

(са злосьцю глядзіць на мужа).

Эх!...

(Паўза).

МІХАЛІНА.

Вось пан Ігнат зрабіў неспадзеўку! Я мела вас за іншага чэлавека!.. — І на што цягаць яго ў шынок?.. Ен сам знае добра дарогу і без вас!..

ІГНАТ.

Гэта з радасьці, панечка...

ВІНЦЭНТ.

Але!.. з радасьці!..

МІХАЛІНА.

Маўчы! Для цябе заўсёды радасьць!

ВІНЦЭНТ.

Павіншуй яго, Міхця, і гардзіся!.. Поў мільёна таляраў...

ІГНАТ (папраўляе Вінцэнтага).

Доляраў...

ВІНЦЭНТ.

Усё роўна! — Бачыш ты, што гэта такое: поў мільёна?!

МІХАЛІНА.

Э, адчапіся!

ВІНЦЭНТ.

Бачыш, ужо нават у газэтах пісалі!

(Далей будзе).

